ца ў дымчастае воблачка. Ад рыжага Антося цягнецца доўгі цень. Ён стаіць пасярод двара, слухае ды ківае галавой так павольна, і задумна, нібы загадку разгадвае.

— Ах ты-ы-ы... Вось яно што-о-о... Значыць і нашае поле дачакалася... Значыць і да нас яна набліжаецца...

## X

Ужо не адзін рыжы Антось чуе—і местачкоўцы не глухія. Але местачкоўцы не ведаюць, што гэта за яно. Тарганецца недзе за лесам з боку балотных лугоў за млынам, тарганецца зямля, нібы хтосьці балюча ўшчыкне яе, тарганецца і сціхне. Акурат падземныя гукі.

— Я ведаю, — тлумачыць рыжы Антось, — гарматная страляніна. Дзякаваць богу, наслухаўся... Ведаю.

Садоўніца Маўра, Левін з Ірай, што дабраахвотна вартуюць сад, чуюць па начах тое самае. Часта і начлежнікі пры конях дзівяцца: „зямля дрыжыць". Нарэшце, рыжы Антось растлумачыў... І каганецкія выходзяць на ганкі паслухаць „пульс вайны", як кажа брат Кантаровічыхі — настаўнік з Смаргоні. Яшчэ пара дзён і на двор выходзіць не трэба, і не прыходзіцца чакаць ночы — і ўдзень чуваць. Шыбы ў вокнах дрыжаць. Сціхнуць на некаторы час ды зноў „дзынк... дзынк... дзынк"... Акурат — нехта будзіць ваколіцу: „Уставайце!" А ўначы

зноў цікавей і страшней, чым у дзень—бо з таго боку, адкуль плывуць гукі, палыхае зарыва... Акурат нібы хтосьці чырвоную хустку палошча ў нябеснай сажалцы. Стагі гарадь? Вёска? Хтосьці лясы падпаліў? - Хто яго ведае. Розныя чуткі. Калі-нікалі ў каганецкае неба наведваецца самалёт. Свой ці нямецкі? Усе задзіраюць галовы ўгару, і старыя людзі хаваюцца ў скляпах. Дзяцей ніяк туды не зацягнеш. Яны вар'яцеюць ад самалётаў і радасці.

— Рамантычная пава-купава плыве да цябе, Ірачка,—кажа Левін.

— Нядобра жартуеш.

Цяпер часта праходзяць праз мястэчка групкі салдат у пяць, у дзесяць чалавек.

— Што чуваць?

— Хутка сюды прыдуць казакі.

„Зайцы" больш не хаваюцца, бо ні стражнікі, ні ўраднік сюды не з'яўляюцца. Забылі „зайцоў", забылі хабары. Тых мабыць таксама палохаюць гарматныя грукаты і зарыва, што не сыходзіць з краю неба, як агромністы сцяг.

Некаторыя з каганецкіх, самыя заможныя, што баяцца за сваё дабро, больш за іншых, пачынаюць рыхтавацца: Сакалоўскі і Шыман Кантаровіч павезлі ў Менск вазы з дабром, нанялі там кватэры і стараюцца ўсё лепшае вывезці адгэтуль.

— Я не ёлап які,—хваліцца Сакалоўскі.

— Гэта-ж не зашкодзіць,—апраўдваецца Шыман Кантаровіч.

— Ім то лёгка,—зайздросцяць каганецкія.—Яны

могуць і ў Менску жыць. Сакалоўскі з Кантаровічам могуць і там займацца скупліваннем жывёлы для арміі. Але як нашаму брату пакідаць насіджаныя гнёзды? У Менску з голаду памрэм. Тут мы гаспадары, а як толькі кранемся з месца, то назаўтра мы жабракі. Мы-ж да Каганцоў пупамі прырраслі.

На гэта стары кніжнік Лейба Кантаровіч кажа так:

— Кожнае чалавечае становішча мае сваё святло і свой цень. Багаты радуецца свайму багаццю, але колькі ў яго клапот, каб гэтае багацце захоўваць. Затое беднаму чалавеку добра ў тым сэнсе, што ён нічым не рызыкуе. Ён нічога не баіцца і не мае чаго шкадаваць.

Каганецкія праклінаюць мястэчка самымі страшнымі праклёнамі. Праклінаюць і непакояцца:

— Каб хаця мястэчка цэлым засталося. Каб хаця не дайшла да нас гэта навальніца. Каб хаця...

Бацькі Маўры з небывалай паспешнасцю вывозяць яблыкі з саду. Пакуюць антонаўку—і дамоў да сябе. Левін з Ірай гуляюць у спустошаным садзе. Па начах адгэтуль так добра чуваць грукат гармат, а на небе ў вогненым зарыве яны чытаюць строгае папярэджанне сваім забаўкам: „Мэнэ, тэкел, уфарсім"—злічана, узважана і заплачана...

Сад страціў свой ранейшы прытул. Вялізная будка пад старымі яблынямі цяпер пустая. А раней была такой прытульнай і вабнай. Тут ляжалі

вялікія піраміды сакавітай садавіны. На саломе ў адным з лепшых куткоў быў маленькі алькерык белавалосай Маўры: падушка, коўдра, вопратка, пасудзіны. Часта тут у карты забаўляліся, кніжкі чыталі або на балалайцы брынкалі песню пра гімназістку, якой апрыкрыла арыфметыка і граматыка. Усе навакол гралі на балалайцы гэту песню. Цяпер сумна ў парадзелым і абрабаваным садзе.

Левін і Іра часта бачаць у гэтым садзе з кніжкай у руках аднаго з „зайцоў"—Шагала—швагра Кантаровіча. Ён чамусьці хавае ад іх заўсёды свае кніжкі. І нейк да „зайца" не падобны.

Цяпер Левін нямала ведае пра Шагала. Ведае з сялянскіх гутарак. Тое абурэнне аб вайне, якое раней вылівалася ў іх у нязвязныя і туманістыя словы, набывае цяпер лагічную стройнасць. Левін адчувае Шагала ў кожным слове сялян. Гэта ён, Шагал, уносіць у іх думкі яснасць і логіку. Як гэта яму ўдаецца? Ніколі, здаецца, Левін не бачыць Шагала з сялянамі...

І Левін зайздросціць Шагалу:

— Чаму гэта ён умее, а я не ўмею?.. Вось табе і „заяц"!.. А каб хоць адзін з сялян яго прозвішча ўспомніў... Ніхто...

Калі Левін успомніць Шагала пры маленькім Гарасіме ці пры кульгавым Макару, дык тыя толькі апасліва і недаверліва на яго зірнуць ды нічога не кажуць.

Левіну крыўдна.

*

— Плачце, плакальніцы! Рвіце вопраткі і абсыпайце попелам свае галовы!—кажа стары Лейба Кантаровіч.

Ён задаволены. Кончыліся карцёжныя забаўкі, і старому кніжніку за паркалёвай заслонай ніхто не перашкаджае ўглыбляцца ў сваю кабалістыку, каб выкрываць таямніцу быцця і зразумець канец усіх канцоў (пачатак усіх пачаткаў ён добра ведае).

Клуб „зайцоў" сапраўды распаўся. Малады Сакалоўскі і Гарэлік страцілі годнасць „зайцоў". Бацька Сакалоўскага і Шыман Кантаровіч дасталі для іх у Менску дакументы-адтэрміноўкі ад ваеннай службы, як для пастаўшчыкоў жывёлы для арміі. Малады Сакалоўскі возіць у Менск разам з параб-камі бацькава дабро. А „ціхі анёл"—Гарэлік зголіў бараду і марыць аб тым, каб надзець вайсковую форму з пагончыкамі на плячах і з корцікам збоку, як тыя земгусары, якіх нямала бачыў.

Астаўся „зайцам" адзін толькі Шагал, швагер Шымана Кантаровіча. Але ён таксама зголіў бараду і памаладзеў на дзесяць год.

— Для чужога Гарэліка дастаў дакумент,— скардзіцца жонка Кантаровіча,—а для майго роднага брата не можаш дастаць.

— З Гарэлікам гандлюем, ён мне больш, чым свой, а што мне твой брат?—Чужы! Нават горш чым чужы, бо толькі клопаты маю ад яго. Ён не вучыў дзяцей, а псаваў іх, чорт ведае што ім

у мазгі ўбіваў—вось мой бацька і забраў іх ад яго. Каб ён не быў маім шваграм, даўно-б сказаў аб ім каму трэба. Няхай падзякуе, што маўчу. Ён-жа мне вораг, брат твой. Здаецца, і ты чула не раз, як ён бэсціць мяне, якімі словамі называе. Нават чужым чорт ведае што пра мяне гаворыць. А колькі бяды пасыплецца на маю галаву, калі даведаюцца, хто ён і што ён. Гэта-ж ён зусім неасцярожны з мужыкамі. Гаворыць з імі як роўны з роўным, і цэлую музыку аб вайне заводзіць. Няхай падзякуе, што я маўчу. Ведаеш, што я не шкадую есці твайму брату, але не трэба пляваць у калодзеж, з якога п'еш.

Кантаровічыха слухае і плача. Яна між двух агнёў.

Аднак Шыман Кантаровіч і маўчыць, і не маўчыць... „Па сакрэту" расказвае аб швагру ўсё, што толькі ведае. Расказвае з той мэтай, каб хто-небудзь сказаў каму трэба—хоць-бы бліжэйшаму начальніку—ураднiку Зайцу...

Шыман Кантаровіч не даносчык, але няхай аб гэткіх справах ведаюць другія. Можа хто з іх...

І Шыман Кантаровіч чакае падзеі. А падзеі няма. Дзівіцца ён, што людзі ведаюць і маўчаць...

— Ша, ша... Зацікавіліся...

Нізенькі Гарасім і кульгавы Макар пачалі прыходзіць да Шагала. Прыходзяць на гумно, дзе ён сядзіць і чытае кніжкі. Там гутараць сабе ды гутараць. Шыману часу няма пайсці ды паслухаць, але ён і так добра ведае, аб што ідзе гутарка.

Адзін толькі Гарэлік не заводзіць гутаркі з Шагалам. Ён, Гарэлік, хітранька ўсміхаецца. Шыман Кантаровіч шмат чаго чакае ад гэтай усмешкі. Ён праз меру часта ўспамінае Гарэліку пра сакрэт і просіць-моліць яго, каб нікому не прагаварыўся. Уся надзея на Гарэліка. Толькі трэба пры выпадку добра раззлаваць яго ў гандлі... тады...

Левін даўно заўважвае, што адносіны паміж Кантаровічам і Шагалам нацягнутыя.

Аднаго разу Шыман Кантаровіч у гутарцы з Левіным праз меру шчыра выказаўся:

— Эт! Гэты чалавек прапашчы! У яго такое ў думках, што лепш не гаварыць. Скажу толькі адно і больш ні слова: каб не жонка мая—яго родная сястра,—дык на парог не пусціў-бы такога. А здаецца сын парадачных бацькоў. Га? бываюць-жа выродкі. І бацька мой яго ненавідзіць за тое, што богу не моліцца. Цяжка гаварыць але павінен вам, пане Левін, сказаць, што мой швагрук скруціць некалі сваю галаву, а можа нават і зусім скора. Гэта-ж мая бяда, маё ўласнае гора, і, бронь божа, вы нікому аб гэтым ні слова. Цяпер, у часе вайны, пане мой, ён лезе на ражон. Я думаў, што ён пасталеў і забыў сваё ранейшае глупства, дык не. Лысым нарадзіўся— лысым і здохне, пане Левін. Калі мае дзеці, такія далікатныя хлопчыкі, знімуць шапкі перад якім, небудзь панам і скажуць „дзень добры" (я іх навучыў), дык ён крычыць на іх ды кажа, што гэтага не трэба, што гэта рабства. Псуе гэты вы-

радак дзяцей маіх, пане Левін. Мяне самога (я схаваўся на гумне і чуў, як ён гаварыў кульгаваму Макару) крывапіўцам заве. Па-ягонаму, мне хоць у возера тапіся. Гэта ён ды яму падобныя цара скінуць?—Кароткі пяты! Багатыя, па ягонаму, самыя сволачы ды паганцы. І вайну багатыя пачалі, каб яшчэ больш узбагацець. Ха-ха-ха! Да чаго можа чалавек дайсці па сваёй дурноце. Га? І вось, кажа ён, рабочыя вайну супроць вайны наладзяць (Шыман Кантаровіч лічыць па пальцах): рускія рабочыя супроць сваіх багачоў, немцы—супроць сваіх, французы—супроць сваіх і так усюды. Ха-ха! Як вам гэта падабаецца? І вас, пане Левін, дробнабуржуазным пустазвонам называе.

Левін успамінае, што ўвесь час Шагал трымаўся асобна ад іншых „зайцоў“, розніўся ад іх нечым такім ледзь прыкметным, а калі рэзаўся з імі ў карты, дык толькі ад няма чаго рабіць, ці проста каб маскавацца.

— Мяне дробнабуржуазным пустазвонам заве...—крыўдзіцца Левін.—Чаго ён баіцца мяне? Можа-б і я з ім разам быў...

*

За тры месяцы, што Шагал жыве „зайцам“ у Канцах, крыху пазнаёміўся з тутэйшымі людзьмі. Швагра Шымана Кантаровіча і старога кніжніка Лейбу ён ненавідзіць ад усяго сэрца, да роднай сястры адносіцца са злосцю, змешанай са шкадаваннем.

ім усім ён тут чужы, а вось павінен сядзець на іхніх хлябах і бываць у кампаніі з рознымі пустымі людзьмі, гуляць у карты і хавацца куды больш старанна за іншых „зайцоў", бо ён і дэзертыр вайны і наогул чалавек з тых, якімі паліцыя вельмі цікавіцца. Толькі адзін раз у Менск з'ездзіў. Сустрэўся са старым таварышам. Узяў для вёскі пачку праклямацый. Ён робіць дакоры самому сабе:

— Зараз зраблюся падобным да Левіна, буду спакойна „назіраць" за ўсім, што робіцца вакол. Праўда, крыху пазнаў вёску, але не будзеш цяпер, ды яшчэ ў такім становішчы, мітынгаваць перад грамадой. Гутарка з асобнымі сялянамі перад носам фронта справа не кепская, але тырчу я тут, як ражон. Шмат каму вочы намазоліў. А Сухадолец добра спраўляецца з праклямацыямі.

У апошні час Шагал пачынае хадзіць у грыбы. Ходзіць бадай штодня за пяць вёрст ад мястэчка. І вось зусім неспадзявана сустракае там старога таварыша Ваньку Купцэвіча—пад партыйнай мянушкай Тарас. Даўней у Смаргоні Тарас апекаваўся над ім—слабейшым таварышом,—быў яго настаўнікам, выцягнуў з Бунда.

Цяпер ад вялікай уцехі ў Шагала на вачах блішчаць слёзы. Тарас толькі адзін міг быў радасна ўсхваляваны, і вочы яго зараз-жа паспакайнелі, і ён сказаў Шагалу такім тонам, нібы разлучыліся яны толькі ўчора:

— Грыбы збіраем. Дзе ты жывеш?

— У Каганцах, у роднай сястры. Чаму ў мястэчку ні разу не быў Тарас?

— Не маю там чаго рабіць, і не мог-жа я ведаць, што ты там Каганецкую рэспубліку будуеш. А я жыву на Піліпаўскіх хутарах ужо трэці тыдзень. Смаргоні, знаеш, ужо няма. Я родам тутэйшы, вось і жыву ў брата.

— Буду да цябе прыходзіць. У Каганцы не прашу, бо вельмі асцерагаюся свайго швагрука Шымана Кантаровіча. Гэта такі тып, што лепш з ім не сустракацца. Гандляр і сволач.

— Я да такога не паехаў-бы, каб нават быў маім родным бацькам. Не буду перахвальваць майго брата, але ён бядняк, і з ім можна ладзіць. Спачатку ён не згаджаўся са мною толькі ў адным пункце—апраўдваў цара. Ён гаварыў, што каб цар-бацюшка ведаў як пакутуе народ, дык, памог-бы і зямлёй і грашмі і ўсім. Ледзь растлумачыў яму, што такое цар.

— А мой Шыман Кантаровіч зусім не такая наіўная птушка. Ён добра разумее цара. Сам-бы, кажа, бунтароў расстрэльваў, каб быў царом.

— Што-ж ты думаеш? З такога Шымана вышаў-бы царок Саламон можа не горшы за Мікалая, а напэўна разумнейшы.

Абодва ўяўляюць сабе Шымана царом. Смяюцца.

— Дык ідзем, Шагал, ка мне! Будзем спаць на сене. Там аб усім пагаворым.

Тарас у шэрай жакетцы з чорнымі латкамі на

локцях, у старых ботах. Яго светлыя вусы блішчаць на сонцы. Настрой у яго добры. Шагал пазнае не па вачах, а па голасе. Ніколі раней, як памятае Шагал, Тарас так шчыра па-дзіцячаму не смяяўся, як вось цяпер у лесе з кошыкам у руках.

— Калі так,—кажа Шагал,—дык навошта мне грыбы?—і ён вывернуў кошык на мох.

— Збяры назад, дурны! Гэта будзе нашай вячэрай, бо мой брат не такі, як твой Шыман; асаблівай раскошы ў яго няма, апрача хлеба і бульбы.

*

Вялікая сям'я тарасавага брата радасна сустракае гасцей з грыбамі. Сонца ўжо на захадзе. Грыбы з бульбай яны—з усёй сям'ёй ядуць на дварэ, бо ў хаце цесна. Брат Тараса, старэйшы за яго на гадоў дзесяць, вельмі падобны да яго светлымі вусамі, спакойнымі вачыма і голасам.

— Вось такім,—кажа Шагал да Тараса,—ты будзеш праз дзесяць год.

— Затое брат мой будзе выглядаць куды лепш, чым цяпер. Ён яшчэ моцны чалавек, дажыве да лепшых часоў. Дзеці яго будуць вучыцца ў універсітэтах. А мы з табою... Ого-го! Няхай толькі возьмем уладу ў свае рукі. Пролетарыят цяпер на фронце, але зброі з сваіх рук не ўпусціць, накіруе супроць сапраўдных сваіх ворагаў...

— Да гэтага яшчэ далёка,—кажа Шагал.

— А што ты думаеш? Рэволюцыя можа адбыцца так неспадзяванна, што нават не агледзішся.

Навальніца вайны абавязкова скончыцца рэвалюцыяй. Яна выбухне так, аж зямля задрыжыць, куды мацней, чым ад цяперашняй вайны. Ты гаварыў з сялянамі? Заўважыў, як яны ловяць наляту рэвалюцыйныя слоўцы і смелыя думкі? Якраз як у тысячу дзевяцьсот пятым годзе. Кожнае наша слова, кожная пракламацыя цяпер—порах на агонь.

Пасля вячэры яны ідуць на сена. Гутараць ледзь не ўсю ноч. У гэтым глухім кутку сялянская беднага напружана чакае паратунку. Вось гэтымі днямі яны, Шагал і Тарас паедуць у Петраград. Няма чаго доўга тут засіджвацца. Там шмат працы, на заводах забастоўкі. Рабочая моладзь нічога не баіцца. У Тараса ёсць адрасы некаторых смаргонскіх рабочых, што жывуць цяпер там. Умаўляюцца, што прыдзе ў Каганцы Тарас, і яны забяруць рэчы Шагала да тарасавага брата, тут на хутарах наймуць фурманку і дабяруцца да Менска. З Каганцоў было-б бліжэй і зручней ехаць, але не варта рабіць лішняга шуму.

*

Возера—як неба, неба—як возера: мутны колер волава. Па непрытульных палях спушчаны з ланцугоў вятры. Часам сцёбаюць начарнелае іржышча касыя дажджы, часам праясняецца неба і на дзень, на два сонца зноў па-летняму свеціць. Не гледзячы ні на якія трывогі аб набліжэнні фронта, ідзе сяўба жыта.

Сёння Левін спраўляе ўрачыстую жальбу адзі-

ноцтва. Спацырue далёка на тым баку возера і не ведае дзе дзецца ад нуды.

Справа была так.

Маці Іры—дробная крамнічыха—запрашае яго раніцой на гутарку. Якраз у крамцы нікога няма. Высокая, худая, як таран, кабеціна, з жаласлівымі карымі вачыма, падае Левіну табурэтку, пры гэтым выцірае яе сваім замасленым фартухом, хрыплым голасам просіць сесці ды адразу пачынае хвалявацца:

— Левін, я ад вас не спадзявалася...

— Чаго не спадзяваліся?

Ён робіць невінаваты выгляд і міжволі ўцягвае носам пах газы з селядцамі. Крамнічыха ківае галавою.

— Ай-ай, так і не знаеце! Усё мястэчка гаворыць, што вы маю Ірачку зводзіце.

— Як гэта зводжу?

— Не прыкідвайцеся і не чапайце яе. Яна-ж яшчэ дзіцё. Усяго шаснаццаць год. Думаеце, на мае сродкі вучылася? Яшчэ да таго, як пакралі тавары з маёй крамы, я не мела на гэта сродкаў. Сястра памагала. Хацелася мне, каб хоць дачка была чалавекам, каб хоць яна не прапахла наскрозь газай і селядцамі.

Крамнічыха гучна смаркаецца, выцірае нос хустачкай, пасля чаго трэ гэтай хустачкай пачырванелыя вочы і глядзіць на Левіна, як на такога, што спрабаваў усе грахі зямлі.

— Я не разумею, чаго ад мяне хочаце?

— Не прыкідвайцеся, Левін. Вы ўжо сталы чалавек. Усе мястэчка ведае, што вы зводзіце Іру. Вы нагаварылі яе ісці акопы капаць.

— Няпраўда.

— Вы яе баламуціце. Цэлымі начамі няма яе ў хаце. Я не дазволю. Не дазволю! Тут вайна, невядома, што з намі ўсімі будзе, а вам чорт ведае што ў галаву лезе.

— Не ваша справа, што мне ў галаву лезе,— злуецца Левін.

— Прыехаў з горада, і чорт ведае чым займаецца!

— Чым?

— Усё мястэчка гаворыць. Заўсёды з Ірачкай. Ніколі яе ў хаце няма. У каго не папытаюся— з Левіным цягаецца. Ці-ж на гэта ёй гімназія патрэбна была? Скажыце, Левін? Усё мястэчка гаворыць, што на гэта ёй гімназія не патрэбна.

*

Левін не ведае дзе дзецца. Ідзе прасёлачнай дарогай па тым баку возера на новыя хутары, што пабудаваліся за апошні час. Гады чатыры таму назад пан Манілоўскі прадаў сялянам дзялянкі на старых пасеках, дзе віленскія купцы высякалі лес. Тут ён, Левін, быў раней прыказчыкам, а яго бацька вазіў калоды на рум.

Ідзе Левін у той бок і раптам спыняецца і здзіўлена таропіць вочы.

Недалёка ад дарогі, у нізіне дзівосная групка

людзей. Нешта цягнуць, валакуць, клапатліва, як мурашкі. Левін накіроўваецца туды.

— Што вы робіце?

— Бачыш... Арэм...

— Бабы замест каня?

— А дзе дзенешся, калі конь здох. Жыта сеяць трэба?—Трэба! Курыць маеш?

Левін дастае тытун і аглядае групу. Незнаёмы селянін, падобны да закатаванага, замучанага чалавека. Ён босы, у шарачках, у цвёрдай, як бляха, зрэбнай кашулі.

— Дык ужо будзь ласкаў, пане мой, і скруці мне папяроску, бо мае пальцы бачыш якія? У паперу пападзе больш пяску, чым тытуну.

Левін скручвае папяросу і дае селяніну. Той закурвае і са смакам зацягваецца. Левін пытаецца:

— А цётак гэтых, што саху валакуць, дзе набраў?

— Гэтага дабра ў нас хапае. Пасля сяўбы магу іх табе падарыць.

Голас яго злы і непрыемны. У вачах вострыя голачкі. Зусім да закатаванага не падобны і нават злоснага, абуранага чалавека нагадвае. Закурыў, зацягнуўся дымком і зноў зрабіўся лагодным.

— Вось гэта старая—мая жонка, другая—яе сястра, а маладая—дачка. Троечка ніштаватая! Усё ім кепска! Здаецца, гэткія папружкі ў іх! У стаеннікаў пана Манілоўскага куды горшыя.

— Кінь плявузгаць, дурны!—злуецца адна з жанчын.

— Ціха, ты! Наравістая... Пугі на цябе няма,— жартуе араты.—Тузгаюцца, пане мой, круцяцца-верцяцца. Ніяк танцаваць не хочуць пад маю каманду. А даліка-а-атныя—бачкі, кажуць, намулялі, грудзі. Ніяк не ўгодзіш, каб яе вэўкі зарэзалі, гэткую тройку! Папружачкі, кажуць, не падабаюцца. Дай ім такія, як у пана Манілоўскага—са срэбнымі бамбэлачкамі, каб блішчэла ды звінела. Я вам заблішчу і зазвіню!

— Годзе языком малаціць!—зноў крычыць адна з тройкі.

Тройка садзіцца ля сахі, скінуўшы папружкі—старыя мяшкі, прымацаваныя да лейцаў. Усе яны ў аднолькавым паркалёвым адзенні. Старыя жанчыны з хусткамі на галовах, а маладая—дачка гаспадара—без хусткі. Твара яе Левін не бачыць, яна саромеецца яго і адварочваецца. Ён бачыць толькі яе зграбную русую галоўку з чырвоным грабеньчыкам у валасах.

— Змарыліся?—пытаецца Левін.

Жанчыны маўчаць. За іх адказвае гаспадар:

— Дзе, пане мой, бачыў, каб коні гаварылі? А работа ў іх нялёгкая. Мой буланы стары быў, худы і карослівы, а цягаў саху люба-дорага. Лепш за гэту тройку.

— Трэба як-небудзь каня набыць,—радзіць Левін.

— Трэба!—зноў пачынае злавацца гаспадар, і вочы яго мігацяць двума вугольчыкамі. Ён рухае рукамі так, нібы за лейцы цягне.—Трэба!—і пагрозна глядзіць на Левіна.—Дзе ты купіш каня,

калі апошнія торбы прыходзіцца прадаваць, каб пану за зямлю выплачваць. Абодва мае сыны—самая сіла—на вайне.

— У часе вайны можна не плаціць даўгоў. Закон такі ёсць.

— Пан мае свой закон—плаці, хоць душа з цябе вон! Паляруш яго знае, чаму гэта ўся зямля пану належыць? Ці ён сам стварыў яе, ці якое тут ліха? Ён толькі гнаіў яе нашымі трупамі. Плаці яму цяпер! Каб яму вантробы павырывалі, як мы вось кішкі рвем! Каб ім гэткае жыццё, як нашае. Эх ты, упрог бы так у саху трох панскіх дачок, ды пугай смаліў-бы па іх. Павазіце вы і нас хоць разок за тое, што мы, бацькі і дзяды нашы ўвесь час вас вазілі і возім.

— Кінь ты, Язэп,—зноў не стрымліваецца адна з тройкі,—усё гэта ад бога.

— Ад бога! Ад бога! Гыш ты яе, божую кабылку! Як пападзя ўсёроўна! Ад бога!—перадражнівае сваю жонку Язэп.—Гэта ад нашай мужыцкай дурноты. Няхай яна прападзе разам з гэтым богам!

— Не шануеш бога!—усхопліваецца з крыкам жонка Язэпа.—Вось і жыццё такое маеш!

— Не шаную?

Ад злосці Язэп аж падскаквае ды крычыць з усіх сіл:

— Заткніцеся з вашым богам, калі думаеце, што ён вас запрог у саху! Вось яму! Вось яму! Што ён мне зробіць?—і выведзены з цярплівасці

Язэп паказвае небу дзве касцістыя фігі, з якіх сыплецца пясок, быццам з толькі што выкапаных бульбін.

Усе тры кабеты, бледныя і спалоханыя, ускакваюць з зямлі, аглядаюцца навакол такія збянтэжаныя, нібы зараз іх усіх тут глыне зямля. У іхніх вачах блішчаць слёзы. Іх вельмі ўстрывожыў „вялікі грэх" Язэпа. Ён пазірае на іх, расчулены раптам іхнім шчырым страхам, і зноў становіцца пакорлівым, лагодным і вельмі падобным да закатаванага, замучанага чалавека...

— Годзе, міленькія, давайце будзем араць, а то яшчэ горшы грэх учыню...—І Язэп бярэцца за саху.

Тры жанчыны моўчкі ўстаюць, насоўваюць на сябе папружкі, нацягваюць лейцы, напружна нахіляюцца, і вочы іхнія—ці мо' Левіну так здаецца—адразу трацяць чалавечы выгляд...

— Ну, міленькія,—кажа дабрадушна Язэп,—пачынаем новую баразёнку для пана Манілоўскага.

*

Уцякае Левін ад свежаўзаранай глебы, як ад страшнай балючай раны—і, не гледзячы больш на аратая і тройку, дамалёўвае сам:

Паволі рухаецца наперад Язэп. У яго такое меркаванне, каб самому і кіраваць сахою і глыбока ўрэзвацца нарогамі ў зямлю і падпіхваць наперад, каб тройцы было лягчэй. Пры гэтым ён падобны да пакорлівага чалавека. Але вось розныя

думкі пачынаюць яго хваляваць—і гнеў і страхотная сіла зноў мяняюць выраз яго твара. Праходзіць цяжкая, як глеба, хвіліна, яшчэ адна, і яшчэ. Марудна, да прыкрасці марудна, расце баразна за баразной. Цяжка сапе ратай. Ніжэй да зямлі прыгінаецца тройка, рукамі дастае бадай да зямлі. Зараз на ўсіх чатырох пойдзе--на руках і нагах. У жанчын разяўленыя раты, чырвоныя ад натугі твары, а вецер падносіць Левіну пад самыя ноздры агідны пах поту чатырох чалавек, змораных непасільнай працай.

А вось другая тройка—на дабрачынным вечары ў Вільні на карысць раненым салдатам. Аддаў тады Левін за білет адну з сваіх нямногіх трохрублёвак і пайшоў на гэты вечар.

Там прыгожыя дамы прадавалі пацалункі: у палец—пяць рублёў, у далонь—шэсць рублёў, да локця—дзесяць рублёў, далей па ўмове з дамай. У афішах быў надрукаваны падрабязны прэйс-курант.

Сярод балетных нумароў тры прыгожыя дамы—балярыны-аматаркі пад псеўдонімамі Афрадыта, Дыяна і Венера—танцуюць „тройку": рамантычную, пышную, апяваную ў вершах і прозе панскую тройку. У трыко ружовага колеру цела і ў кароценькай, зусім кароценькай вопратцы блакітнага колеру неба, у шаўковай збруі, аздобленай бліскаўкамі—тройка кружыцца па сцэне са званкамі ў руках. Тройкай кіруе фурман. У адной руцэ ён трымае бутафорскія лейцы таксама ў бліскаўках, у другой—такі-ж бізун. Балярыны зво-

няць, званкамі, пабрыкваюць як выпешчаныя стаеннікі, і чаруюць публіку багінепадобнымі і конепадобнымі гнуткімі станамі. Фурман нацягвае лейцы, цмокае губамі і страляе бізуном у паветры. Арфа, скрыпка і піяніна сцелюць перад тройкай музычную снежную дарогу—са скрыпам палазоў, з трэскатам мароза, з ляснымі шолахамі, з гучнымі дымчастымі далямі.

З пярэдніх крэслаў, напоўненых чорнымі фракамі, ружовымі дамскімі плячамі і генеральскімі пагонамі, часта чуваць:

— Чароўна!..

Плаўны танец тройкі, выбражаемы тупат капыт, конскія рухі грудзьмі і сцягнамі, кволыя срэбраныя званкі даводзяць пакупцоў пацалункаў да экстаза:

— Эстэтычна!..

Усё шпарчэй і шпарчэй імчыцца тройка, выгінае шыі па-конску, махае галовамі, бліскае падведзенымі лёгкай фарбай вачыма, кусае выбражаемыя цуглі ды імчыць наперад пад рытмічны лёскат бутафорскага бізуна.

— Бажэствена!..

У захапленні маклеры, купчыкі, ваенныя падрадчыкі, афіцэрства. На сцэну сыплецца дождж жывых кветак і сотні паветраных пацалункаў-авансаў. А пасля пачнецца продаж пацалункаў па прэйс-куранту. Усё гэта для раненых воінаў.

Каб хоць на пару дзён Язэпу на сяўбу жыта Афрадыту, Дыяну і Венеру—на пару дзён...

## XI

Дастаўшы адтэрміноўкі ад воінскай павіннасці, Гарэлік перастаў быць ціхім анёлам. Ён гаворыць цяпер са сваімі супольнікамі Кантаровічам і Сакалоўскім зусім новай мовай.

— Давайце мне сюды рахункі! Дзе мае пяць тысяч?

Гарэлік стукае кулаком аб стол і робіць страшныя вочы.

— Рахункі і грошы!

Шагал на хутары ў Тараса. Няма лішніх сведак. Шыман Кантаровіч і Сакалоўскі маўчаць. Сакалоўскі ўжо сказаў сваё, і Шыман з ім згодзен:

— Супакойся, Гарэлік-ёлап, тады мы з табой будзем гаварыць.

Яны чакаюць, пакуль Гарэлік супакоіцца. Чакаць прыходзіцца доўга. Кплівае маўчанне хаўруснікаў злуе Гарэліка яшчэ больш. Як не хоча гаварыць спакойна, яму гэта не ўдаецца. У яго ўнутры сядзіць другі Гарэлік і цягне першага за язык:

— Рахункі і грошы!

Рахункі і грошы яго хвалююць да таго, што ён хапаецца рукамі за галаву, бегае па пакоі і рычыць без слоў. За дашчанай сценкай румзае Лейба Кантаровіч. Гарэлік бяжыць да яго на паратунак.

— Рэб Лейб! Мае спульнікі круцялі. Я ад іх гэтага не спадзяваўся.

Лейба Кантаровіч углыблёны ў кнігу. Ён неахвотна адрываецца ад друкаваных густых літараў і незямнымі вачыма пазірае на Гарэліка. Яго голас ціхі і лагодны:

— Што ты хочаш, сын мой?

— Яны круцялі, ваш сын і Сакалоўскі. Рассудзіце нас па-божаму, рэб Лейб.

Стары кніжнік нюхае тытун, чыхае і кажа меланхалічна-спеўным голасам:

— Звычайная справа, сын мой. Калі такія мудрацы, як тварцы Талмуда Шамай і Гілаль вечна між сабою спрачаліся, дык не дзіва, што гандлёвыя людзі перагіркваюцца. Звычайная справа, сын мой. Вы як-небудзь самі, я ў гэта не ўмешваюся.

І зноў насоўвае акуляры на нос і пачынае румзаць. Ён ужо далёка ад спраў зямлі... Ён гутарыць з богам.

На Гарэліка нападае роспач. Ён вяртаецца да сваіх супольнікаў і пачынае спакойным голасам:

— Жартачкі, пяць тысяч рублёў! Аддайце мне назад мае грошы, і я не буду глядзець вашых рахункаў. Заробкі мне не патрэбны.

Сакалоўскі жмурыць вочы і хваліць Гарэліка.

— Вось цяпер бачу, што Гарэлік не ёлап. Цяпер,

калі супакоіўся, можна з табою гаварыць па-чалавечаму. Грошы, як табе вядома, у гэты момант вярнуць не можам, бо яны ў тавары, а рахункі ты, не будзь ёлапам, і прагледзь. Тады пабачыш, што ў нас не толькі заробкаў няма, а наадварот. Мы шмат страцілі за апошні час. Прыёмачная камісія забракавала тавар і скруціла палавіну грошай. Дзякуй богу, пане дабрадзеенку, калі дастанеш чыстаганам тры тысячы, а вось і рахункі.

Сакалоўскі кладзе на стол некалькі запісных кніжак і пачынае тлумачыць лічбы. Вочы Гарэліка наліваюцца агнём, на губах паказваецца пена і ён пачынае выць немым голасам:

— Жулікі! Грабежнікі! Рэ-э-эжуцы!

— Супакойся,—просіць Сакалоўскі,—не будзь ёлапам.

— Чаму вы раней цешылі мяне вялікімі заробкамі?

Стары кніжнік, які адным вухам прыслухоўваецца да спраў зямлі, выскаквае з свайго пакойчыка, як малады.

— Сынку мой...—кажа ён.—Ты-ж быў тады „зайцам", быў такім няшчасным... Не хацелі трывожыць твайго здароўя. А ты цяпер не злуйся. Адзін цадык[1] гаварыў, што злосць такі вялікі грэх перад богам, усёроўна як маліцца ідалу.

Гарэлік уздрыгвае і пачынае скрыгатаць зубамі.

— Маўчаў бы лепш, стары круцель!—крычыць

---

[1] Праведнік.

ён. — Анямеў-бы лепш, галаварэз, абверчаны ў тору![1] Здох бы лепш, свіния з кашэрнай ножкай!

На гэта Лейба Кантаровіч кажа салодкім галасам праведніка:

— Сынку мой! Дарую табе тое, што так бэсціш мае сівізны. Але ці бог табе падаруе—гэта яго ўласная справа.

— Годзе табе брахаць, сівы пёс!—і непрытомны Гарэлік кідаецца на старога кніжніка з кулакамі.

Яго з абодвух бакоў хапаюць за рукі—Шыман Кантаровіч і Сакалоўскі і выводзяць праз дзверы.

*

Ля самай прасёлачнай дарогі вецер скубе з бяроз скамечаныя пажоўклыя лісты; кідае іх у поле, падмятае, як злосная гаспадыня; узнімае ўгару, імчыць удаль стадкамі саранчы.

Па гэтай самай дарозе насустрач Левіну ідзе чалавек. На ім шэрае паліто. Ён размахвае рукамі. Зусім, відаць, малады дзяцюк з гарадскіх. Не. Гэта пажылы, голены; маленькія светлыя вусікі, шырокі зморшчаны твар і дабрадушная ўхмылка на кутках губ. Глядзіць на Левіна спакойнымі вачыма і ўзнімае раптам бровы, быццам нешта ўспамінае.

— Скажыце, калі ласка, дзе тут дарога ў Каганцы?

— Ідзіце проста гэтай самай дарогай і трапіце якраз у мястэчка.

[1] Пяцікніжжа Майсея.

— Калі не памыляюся, мы з вамі ўжо недзе бачыліся. Вы не ехалі з Вільні ў чорнай паляруне?..

— Так, так. І я вас пазнаю. Гэта вы мяне тады выратавалі. Вы з Смаргоні?

— Ага. У Смаргоні камень на камені цэлым не астаўся. Вось і жыву ў сваякоў. А ў Каганцах мой зямляк.

— Шагал?

— Той самы.

— Дык пойдзем разам. А можа да мяне зойдзеце?

— Дзякую. Вельмі-ж часу няма. Можа есць бліжэйшая дарога—полем, гародамі?

— Завяду вас гумнамі аж да Шагала.

— Вось-вось. Дзякую. Чуеце? Чуеце грукат гарматаў? Нічога сабе музыка. Даганяе нас вайна гэта. Тады, як ехалі з Вільні, фронт яшчэ быў далёка адгэтуль. Недзе каля Горадні.

Левіну трохі ияёмка. Нават не сказалі адзін аднаму прозвішчы—і тады ў поездзе, і цяпер.

У Кантаровічаў Левін з смаргонцамі п'юць гарбату. Кругленькая, як бочка, гаспадыня частуе яго з такой-жа ветласцю, як сваіх смаргонцаў. Яна гаворыць аб сваіх знаёмых у родным зруйнаваным цяпер горадзе, і Левін сядзіць, як на турэцкім казанні. Шагал з гарбаром на „ты", разумеюць адзін аднаго з поўслова. Часта хто-небудзь з іх зірне на Левіна (бадай непрыкметна) такімі вачыма, нібы хочуць ад яго як найхут-

чэй збавіцца. Левін адчувае сябе чужым. Падымаецца.

— Бывайце здаровы!

— Бывайце...

— Пасядзелі-б яшчэ, пане Левін,—не адстае гаспадыня.

— Дома чакаюць.

Калі Тарас з Шагалам застаюцца адны, Тарас папракае Шагала:

— Усё-ж такі нядобра, што ты жывеш тут каля двух месяцаў і не здружыўся з Левіным. Ён можа стаць нашым чалавекам. Вядома, над ім трэба яшчэ шмат папрацаваць, але з яго можа выйсці толк.

— Кінь аб гэтым,—нервуецца Шагал.—Добра знаю гэтае асяроддзе. Няварта аўчынка вырабу.

— Няварта? А ці забыў, што калісьці і ты сам такім быў...

Шагал чырванее...

*

На мяккай канапе Шагал з гарбаром. Гавораць ціха. Гаспадыня часта ўваходзіць у гэты пакой. Ловіць асобныя словы: „Петраград", „заводы", „забастоўкі", „РСДРП", „арышты" „Дзяржаўная дума", „фронт", „пролетарыят". Яны гавораць такім тонам, нібы за іх плячамі вялікая сіла, нібы яны могуць заваяваць увесь свет. Ад такога лексікона яна нічога добрага не чакае. Яна гэта ведае яшчэ з Смаргоні, з дома бацькоў, калі ў

тысяча дзевяцьсот пятым годзе туды ездзіла ў госці.

Смаргонь—як узбураны вулей. Забастоўкі па гарбарнях, дэманстрацыі на вуліцах. Усе крамы пазачыняны, як у святочныя дні. Спяваюць „Смело, товарищи, в ногу", „Інтэрнацыянал", „Варшавянку". Над галовамі гарбароў палыхаюць чырвоныя сцягі. На вуліцах мора людзей, шквалы ўзбуджаных галасоў.

Для „ўсмірэння крамолы" прыехалі аж дзве сотні казакаў. Дзікія і злыя, яны гойсаюць па вуліцах. Ніхто не выходзіць з кватэр. Вобыскі, арышты. Гарбары галадаюць, а не здаюцца, фабрыкі не працуюць. Весткі плывуць з розных гарадоў Расіі: у Вільні на вуліцах барыкады, тое самае ў Менску, Пецярбурзе, Маскве. Агульная забастоўка чыгуначнікаў. Кантаровічыха баіцца за брата. Цэлымі днямі яго дома няма, а калі з'явіцца на некалькі хвілін, дык паведамляе:

— Бярэм верх...

І зноў яго няма. Старая маці плача, Кантаровічыха трывожыцца. А ён усё сваё:

— Бярэм верх...

Аднаго разу... Ноч. Вецер выганяе з гарбарняў на вуліцы смурод сырой скуры. Кружыцца галава ад паху living рознага гніцця, што цэлымі горамі панакіданы на падворках гарбарняў.

І вось прыходзяць з вобыскам. Кантаровічыха адчыняе жандарам дзверы. Хатнія трывожацца. А брат спакойны, хоць-бы што. Шукаюць па ўсёй

кватэры так старанна і павольна, аж дзівіцца трэба такой цярплівасці. Жандары перакідваюць пасцелі, мацаюць падушкі, пералістоўваюць кнігі, лезуць у печ, па сценах стукаюць. У некаторых мясцах узнімаюць дошкі з падлогі. Ніводнай скрынкі няма ў хаце, ніводнага гаршка, куды-б не паглядзела вока жандара.

— Няма...

Злуецца жандарскі афіцэр, сам у пер'ях і пылу. Злуецца і пачынае крычаць:

— Шукайце! Павінна быць!

З фанаром у руках ідуць нагару. Там нямала працы перакідваць featuring рознае барахло, што збіраецца дзесяткамі год. Скрыпіць пад жандарскімі нагамі столь.

— Няма...

Жандарскі афіцэр,—з кволым тварам, з блакітнымі вачыма, атрахвае з сябе пыл, нібы кот, які выскачыў з сметніка. З яго шынелі сыплецца пясок і пер'е. Ён тупае нагамі, кашляе ад пылу, лаецца ды крычыць:

— Шукайце! Ведаю, што ёсць!

Бярэцца пад дзень. Ледзь шарэе. Над дамамі кружацца з крыкам вароны. Жандары, строгія і злосныя, ідуць у хлеў. Старая маці Шагала стогне і ўся дрыжыць, як у ліхаманцы. З кватэры нікога не выпускаюць, ля дзвярэй варта.

„Божа мой... божа мой..."—шэпча старая.

З двара, нарэшце, чуваць жандарская радасць:

— Знайшлі! Знайшлі!

Прыносяць у хату тоўстую пачку вузенькіх і тоненькіх лісткоў. Ужо зусім відна, калі прыгожы афіцэр піша нешта пры стале. Потым кпліва-ласкава кажа брату Кантаровічыхі:

— Апранайцеся і пойдзем.

Старая махае рукамі, як паламанымі крыллямі:

— Куды? За што? За гэтыя паперкі?

У прыгожага афіцэра добры настрой. Ён шчыра смяецца і нават са спачуваннем пазірае на старую. Нават брат, бледны і маўклівы, усміхаецца на матчыны словы, спакойна апранаючы паліто. Маці бяжыць да дзвярэй з такім спрытам, нібы памаладзела раптам на трыццаць год.

— Не пушчу! Сын не вінаваты! Ён-жа толькі настаўнік...

Афіцэр жартуе:

— Кепскі настаўнік, калі па гэтых лістках людзей вучыць.

І такі ў жандара лагодны голас, і такія прыгожыя блакітныя вочы... Старая нахіляецца, каб злавіць яго руку.

— Даруйце, паночак, майму сыну... Ён больш не бу-у-дзе...

Цяпер у брата Кантаровічыхі цямнеюць вочы, а голас, голас... Ніколі Кантаровічыха не чула такога:

— Перастаны!—крычыць ён да маці. — Перастаны!

Жандары адцягваюць старую. Брата выводзяць.

Кватэра як пасля пагрому. Кантаровічыха злуецца на брата: „як сялёдку разарвала-б..."

— Хто яго прасіў лезці здаровай галавой у такую хворую справу? Што яму гарбары? Ён-жа настаўнік. Родных не шкадуе...

Больш за тры гады яго не было. Потым новая справа—правакатара шукаць. Дзякуючы таму, правакатару, дзесяткі людзей былі арыштаваны.

І хто-ж-бы мог думаць—стрыечны брат—Мойшка Ліберман... Ён на ўсіх мітынгах першым выступаў... Гарачы такі... Строгі рэволюцыянер... Ах, сволач! Па ўсіх гарадах Расіі потым шукалі. У тысячу дзевяцьсот дзесятым годзе яго знайшлі на Каўказе. Яго ўжо няма...

Толькі сёння Кантаровічыха аб гэтым даведалася.

Праплылі гады. Бацькі Кантаровічыхі памёрлі. Сёстры ў Амерыцы. Смаргонь са сваімі гарбарнямі знішчана толькі што вайною. З усёй іхняй сям'і адзін брат застаўся, і то пад іншым прозвішчам. Даўно ў Смаргоні не жыве. Толькі каганецкім кажуць, што з Смаргоні прыехаў.

І зноў старое вылазіць наверх, як кавалкі жалеза з попелу пажарышча.

Ловіць Кантаровічыха з гутаркі гарбара і брата паадзіночныя словы—вядомыя ёй словы. Плача. Яна старшая сястра. Яна яму—як маці. Гэтулькі пакутваў...

Кантаровічыха плача і пячэ коржыкі брату і гарбару на дарогу, плача і рыхтуе ім сыр і масла.

Дзівіцца Кантаровічыха:

„Згарэла Смаргонь, дык яны па іншых гарадах робяць сваё ранейшае. Нейкія там ліцейшчыкі, ткачы—усё іх абыходзіць...“

Былы гарбар і былы настаўнік выбіраюцца адгэтуль уночы пехатой на хутары. Добра, што няма ў хаце Шымана. Ён кудысьці паехаў з Сакалоўскім.

Шагал сказаў сястры, што паедуць у Менск, але з іхніх гутарак яна выпадкова падлавіла, што з Менску паедуць далей—ні то ў Маскву, ні то ў Петраград.

— Шыману ні слова не кажы, куды паеду,— просіць яе Шагал.

*

Ураднік Антон Заяц—сівавусы са стрыжанай сярэбранай галавой, з гладкім ружовым і ясным, як сонца, тварам—працуе ў паліцыі ўжо каля трыццаці год. Быў спачатку пісарам у мястэчку Гайнаве, працаваў у канцыляры станавога прыстава, а ў 1905 г. даслужыўся да чына ўradніка; вышэй не ідзе, і гэта яму вельмі крыўдна. Яго начальнік, станавы прыстаў Кіркевіч, можа быць яму сынам, а прыходзіцца падчыняцца маладому.

Ён калісьці так стараўся стаць ураднікам, ажна хацелі яго забіць. Каб не Шыман Кантаровіч (схаваў яго ў возе пад саломай і павёз да сябе дамоў), яго можа даўно на свеце не было-б. З таго часу ў яго з Шыманам вялікая дружба.

Цяпер ён марыць аб тым, каб стаць прыставам.

Нецярпліва чакае новай рэволюцыі. Тады, безумоўна, выслужыцца. Роднага сына падвёў-бы пад социялiста і выдаў-бы начальству, каб толькі мець козыр на прыстава.

Зайцу не менш за пяцьдзесят пяць год, а едзе конна лепш за маладых. Едзе ўначы ў мястэчка Каганцы з трыма коннымі стражнікамі.

— Хутчэй! — пaганяе ён стражнікаў.—Хутчэй!

А коні замыленыя, ад іх ідзе пара.

— Хутчэй! Хутчэй!

Урадпік Заяц са стражнікамі абкружае дом свайго лепшага прыяцеля Шымана Кантаровіча.

— Адчыні!—крычыць ён дзікім голасам.—Адчыні!

Яго сустракае перапалоханы Шыман.

— У чым справа, пане Заяц?

— Дзе Шагал?

— Нашто вам Шагал?

Друг і сябар Кантаровічаў упершыню за ўсе гады гнеўна і строга глядзіць на Шымана.

— Дзе Шагал?

— Уцёк адгэтуль два дні таму назад нямаведама куды. Мяне тады не было дома.

Урадпік Заяц рве сябе за сівыя вусы і ледзь не плача.

— Вось не шанцуе...

Шыман глядзіць на яго спачувальнымі вачыма.

— У чым-жа справа, пане Заяц? Скажыце, мы-ж свае людзі..

— Твой Шагал—социяліст.

— Ён такі мой, як і ваш, пане Заяц. Каб я

знаў аб гэтым, дык ён-бы даўно быў у вашых руках.

— Ах, чаму той, жулік, мне аб гэтым раней не сказаў.

— Які жулік?

— Гарэлік. Сволач гэта. Ведаў і не сказаў раней. Вось чорт! Так і не дастукаюся да прыстава, мой ты Шыман!

— Вельмі шкадую. Гэта-ж, каб я знаў... А Гарэлік не лепшы за Шагала, няхай бы сказаў раней, калі ведаў. Паправімся ў другі раз, пане Заяц. Пакуль што будзьце ў нас гасцём. У мяне ёсць яшчэ сёе-тое з манаполечнага, прызнаюся, як роднаму...

Ураднік Заяц не можа супаіцца, дастае з кішэні паперу і тыцкае Кантаровічу пад самы нос:

— Крамольныя пракламацыі раздаваў мужыкам!

— А-яй-яй...—палохаецца Шыман Кантаровіч.

## XII

Ніхто ў Каганцах па начы не спіць. Чакаюць нежаданых гасцей.

У загадкавай далі не спыняецца грукат. Ён перакрыжоўваецца між сабой у нейкім дыялагу двух асілкаў. Палыхае пастаяннае зарыва пажарышч. Дрыжаць вокны. Дзынкае шкло. Вось якраз хтосьці невідочны (можа падобны да соцкага з бляхай жраца на грудзях, што збіраў людзей акопы капаць)—ходзіць ад хаты да хаты і барабаніць пальцамі аб шыбы:

— Набліжаецца... набліжаецца...

— Што рабіць?

— Як ратавацца?

— Рабіць так, як Сакалоўскі і Кантаровіч: усё лепшае—у Менск. А як наблізіцца бяда — перабрацца туды.

— Сакалоўскі і Кантаровіч людзі багатыя. Гной у іхніх хлявах больш варты за ўсё наша дабро. У Менску нам жабраваць прыдзецца. Нікуды не паедзем! Што бог дасць, то і будзе.

— Пойдзем у бежанцы ўсёй грамадою. Будзем падтрымліваць адны адных.

— Ратуйцеся, як хто можа.

— Разам, разам будзем. Тады смялей неяк...

— Гэта каб нас разам адным махам казакі пера-рэзалі? Дзякую і зноў кажу: ратуйся, як хто можа.

— Расставім варту па ўсіх чатырох канцах мя-стэчка, і як вартаўнікі пабачаць войска, тады нам накажуць, і мы кінемся наўцёкі.

— Куды? Чаго? А бэбахі нашы? А каровы, козы? Яшчэ варту зловяць і падумаюць, што шпікі. Лепш дабро сваё схаваем па суседзях у ваколіцы.

— Чым суседзі забяспечаны лепш за нас? Немцы не толькі на Каганцы ідуць. Яшчэ сусед забярэ дабро і скажа, што салдаты ў яго адынялі.

Кожны месгачковец мае свой погляд на справу, а ў дадатак яшчэ сочыць за тым, што іншыя ро-бяць. Ходзяць каганецкія з аднаго канца мястэчка ў другі канец і не ведаюць, што рабіць.

*

Цёмная ноч. Левін працуе лапатай. Выбраў па-гурак за хлявом на гародзе і капае яму. Па земля-копству зубы свае з'еў. Пад варожымі аэрапланамі гэтым займаўся. Яшчэ мазалі не зышлі з рук... Капае Левін і чуе, як на суседнім гародзе ў сал-даткі Ганулі тое самае робяць. Ён бачыць схілены сілуэт бацькі Ганулі, чуе шорханне яго лапаты. Праз вуліцу — за плотам тое самае. Крадучыся адны ад адных каганецкія капаюць магілы для свайго дабра.

Яшчэ сягоння Сакалоўскі і Шыман Кантаровіч сказалі Левіну:

— Паедзем да нас у Менск.

— А сваіх у бядзе пакіну?

— Нічым ты ім усёроўна не паможаш, ёлап ты!

— Што будзе з імі—хай будзе і са мною.

Браты і сёстры, бацькі пакуюць у скрыні маёмасць: швейную машыну, падушкі, вопратку, самавар і ўсё лепшае, што ёсць у хаце.

— Ну як?

— Зараз будзе гатова.

— Суха?

— Жоўты пясок. Нічога не згніе.

Нібы труны, апускаюць у яму скрынкі і скрыначкі. Засыпаюць зямлёй і зверху ніякага знаку... Ніхто і не падумае... Шолам адмервае крокі да хлява—дваццаць пяць. Воддаль круглы камень. Усё ў парадку.

І зноў раніца. І зноў дзень.

На тварах каганецкіх—патаемнасць. Ніхто нікому не кажа аб ночнай рабоце. Суседкі ходзяць адны да адных і саромліва просяць:

— Пазычце гаршчок.

— Можа ў вас лішняя лыжка?

Усе ідуць на паратунак да шаўчыхі Меерыхі. Меер сказаў перад усім народам:

— Я нічога не закопваў, бо нічога не маю. А там лыжкі і гаршкі—ну іх! Дратвы і шыла не буду хаваць.

*

На струхлелым ганку карчмы моўчкі сядзіць дзядзька Левіна, стары Бенцыян. Ён тарапіць вочы на мястэчка, як на чалавека, асуджанага да кары смерці. Ува ўсёй яго постаці, расслабленай і згорбленай, сумная пакора. Ён смокча люльку і не прыкмячае, што яна даўно патухла.

Міма праходзіць нечым незадаволены Левін. (Вельмі хочацца яму пабачыць Іру, але маці яе не выпускае на вуліцу).

Левіну не выпадае не пасядзець некалькі хвілін з дзядзькам. Стары пачынае гутарку такім тонам, нібы толькі што спыніў яе на хвіліну:

— А я сяджу і думаю. Вось ляціць час, імчыцца, як вецер, як цень бусла. На маёй памяці вось на гэтым месцы, дзе цяпер Каганцы, шумеў лес пана Манілоўскага. Яму належала тады ўся ваколіца— з вёскамі, з людзьмі. Чалавек быў у пана такой скацінкай, што сабака ці конь. Дзед цяперашняга Манілоўскага быў і царом і богам над мужыкамі. Тут у лесе на гэтым самым месцы ваўкі і мядзведзі пладзіліся. Адзін толькі гэты тракт на Менск быў яшчэ і тады. Небяспечна было ездзіць па гэтай дарозе—было тут нямала галавярэзаў-разбойнікаў. Ад іх людзям праходу не было. І вось дзед цяперашняга пана прасвістаўся ў карты, прадаў лес менскім купцам і давай разбіваць зямлю на дзялянкі ды ў арэнду. Бог розуму надаў яму, і пан Манілоўскі прадаў нямалы абшар зямлі аднаму менскаму яўрэю — Боруху Давідовічу. Вось

гэтая карчма—першая каганецкая хата. Што дзеялася ў гэтай карчме! Тут мужыкі святкавалі вызваленне ад паншчыны, тут яны праклінялі сваё жыццё і пасля, бо так ужо ад бога пастаўлена: пан—панам, а мужык—мужыком. Не пан у мужыка, а мужык у пана па сёнешні дзень ласкі просіць ды ў руку цалуе. А Боруху Давідовічу бог дапамог. Яго карчма зрабілася магнесам усёй ваколіцы. За гарэлку сюды вазілі і збожжа, і лён, і жывёліну, і шчэць, і ўсё, што хочаш! Тут ужо Борух Давідовіч, не без божай рукі, пачаў прадаваць ад сябе кавалачкі зямлі яўрэям. Вось і вырасла невялічкае мястэчка. Борух Давідовіч цэлы асесар. Каганецкія працавалі на Боруха Давідовіча і разам з мужыкамі праклінялі і Боруха Давідовіча і пана Манілоўскага, і адны і другія ласкі прасілі і ў пана, і ў Боруха. Цяпер унукі Давідовіча купцы розных гільдый па розных гарадах. Апошні ўнук старога Боруха выехаў адгэтуль у Вільню тры гады таму назад і аддаў зямлю ў арэнду Сакалоўскаму і Шыману Кантаровічу. Каганецкіх таксама хто-куды, як бог кожнаму свой лёс напісаў на лбе. Іншыя вось тут жывуць. Мястэчка цяпер на божай далоні ляжыць: альба, альба. Можа некалі тут зноў будзе лес, зноў ваўкі і мядзведзі і разбойнікі. Няма нічога новага пад сонцам. Усё паўтараецца. А можа вайна такую кашу заварыць, што і трава тут не будзе расці. Помніш біблію? Помніш горад Ніневію? Помніш прыгожы ліст, які прагрыз чарвяк? Можа гэты ліст—Каганцы, а чар-

вяк—вайна? Яшчэ пры стварэнні свету бог у кнізе сваёй запісаў усе падзеі на зямлі.

І дзядзька ад урачыстай гутаркі раптам пераходзіць на будзёныя словы.

— Ведаеш, Шлойма? Я на цябе крыўду маю.

— А што?

— Мог-бы прыйсці да старога дзядзькі і таксама наша дабро закапаць. Мы-ж старыя і слабыя, як дзеці, а жыць хочацца... Можа бог не скіне Каганцоў са сваёй далоні, як пудэлачку ад запалак...

— Сёння ўночы, дзядзька, закапаю.

— У мяне не ай-ай-ай колькі ёсць: мядзяны гляк работы твайго дзеда, жончыны падсвечнікі і пара падушак...

*

— Ну іх к чорту з жорнамі! Ад людзей адбіўся.

У часе такой завірухі рыжага Антося цягне да людзей. У іхніх новых, не зусім звычайных цяпер гутарках, трывожных і распачлівых, можна хоць на пэўны час забыць сваю слепату...

Ад кульгавага Макара ён часта чуе:

— Каб можна было ў глыбокай і цёмнай яме праспаць гэтае ліха...

Словы Макара выклікаюць у рыжага Антося новую і цікавую думку. Ён ходзіць павольна па вёсцы за местачковым выганам і па каганецкіх вуліцах, з доўгім кіем у руцэ. Другой рукой трымаецца за плячо залатавалосай Агаткі. Часта круціць махорачныя папяросы, і чыстыя шэрыя вочы яго так глядзяць, нібы бачаць перад сабою ўвесь

свет. І нікому не верыцца, што ў сляпога могуць быць такія вочы. Рыжы Антось усюды кажа адно і тое самае:

— Бліндажы. Трэба капаць ямы, рабіць на іх накат з бярвенняў, насыпаць зверху зямлі і пакінуць месца для ўваходу. У часе перастрэлак можна там хавацца.

Рыжы Антось нясе ў сваіх вуснах людзям у вялікай бядзе нейкую надзею. У справах вайны суседзі больш сляпыя за яго...

— Бліндажы...

А людзям, якія мо' ўпершыню чуюць такое слова, гэта здаецца паратункам.

Паводле інструкцыі рыжага Антося і вясковыя і местачкоўцы капаюць бліндажы. Устаўляюць туды драбіны і абарона гатова. У Каганцах агульнымі сіламі зроблены два бліндажы. Каганецкія глыбокадумна абмяркоўваюць гэты спосаб абароны. Вочы ў іх ліхаманкава гараць, а твары бледнажоўтыя, як пасля хваробы. І дзіва—у кожнага з іх цяпер аднолькавыя рухі: лакцямі цярэбяць бакі і, крадучыся адны ад адных, лезуць рукамі за пазухі ды з заядлым гневам і помстай шукаюць пальцамі пад кашуляй. Зусім не дзіва—больш за дзесяць дзён ніхто ў ваколіцы не распранаецца.

Дзеці заселі ў бліндажах і не хочуць вылазіць адтуль. Крычаць, свішчуць і не ведаюць, дзе дзецца ад радасці.

Каганецкія гатовы сустракаць фронт у поўным узбраенні...

*

— Я, Шлёмка, да цябе іду,—кажа рыжы Антось.

— Садзіся, братку.

Левін падыходзіць да сляпога, бярэ яго за руку і вітаецца з ім.

— Ну як?

— А ніяк. Вось бліндажы параіў тут зрабіць, а ў мяне самога такая нуда, што ўсёроўна цяпер— заб'юць, не заб'юць... Згубіш грошы—забудзеш, памрэ хто з сваіх—забудзеш, а вось згубіш вочы і, мабыць, да самай магілы не забудзеш.

— Трэба мірыцца з бядой.

— Не хачу мірыцца!—крычыць рыжы Антось.— Вось хаджу па людзях, надакучаю. Цягне да людскіх галасоў, як ніколі раней. Прашу кожнага: гавары са мною! Ах, ты...

— Вядома, што з людзьмі весялей.

— Я да цябе, Шлёмка, з просьбай. Ты-ж чалавек такі, помню цябе яшчэ як у лесе разам былі. Вечна кніжкі чытаеш.

— Ага...

— Пачытай мне што-небудзь... Я паслухаю... Прасіў я тут людзей, дык усе непісьменныя. Вось, брат, і ўспомніў цябе. Ах ты... Думаю, дай з нуды хоць кніжку паслухаю. Ніколі ў жыцці не прыходзілася.

— Гэта можна.

— Такая, Шлёмачка, нуда на мяне напала і такая злосць. Здаецца, выкалаў-бы вочы ўсім тым, хто пагнаў людзей на гэту шалёную вайну. Няхай

і яны ходзяць па людзях прасіць, каб ім кніжкі чыталі...

— Я-б ім такое чытаў, аж валасы вылезлі-б у іх ад страху. А што табе пачытаць?

— Нешта аб народзе, аб жыцці... Рабі, брат, ласку сляпому...

Левін глядзіць на рыжага Антося і мяркуе. Нарэшце дастае том Некрасава. Пачынае чытаць павольна і з тлумачэннямі.

Рыжы Антось уважліва слухае і час ад часу ад хвалявання барабаніць пальцамі аб стол.

Левін робіць маленькі перапынак і рыжы Антось кажа:

— Ах, ты! Гэта-ж выходзіць, што я ўсё жыццё быў сляпым, калі не мог чытаць такіх кніжак пра народ, пра беднага нашага чалавека.

— Так, братку. Такіх сляпых у нас яшчэ мільёны. Начальству выгадна, каб народ быў сляпы.

— Яно так і ёсць!—згаджаецца рыжы Антось.— Ну, яшчэ крыху пачытай мне, рабі ласку. Так-бы слухаў і слухаў... Ах ты...

*

Ад водсвету зарыва змрок каганецкай ночы крыху радзее.

— Гэта зарыва можа і ёсць залаты хвост маёй рамантычнай павы-купавы,—кажа Іра Левіну.

Ёй удалося вырвацца з-пад хатняга арышту сваёй маці. Цёмнай вуліцай яны ідуць праз мястэчка ў бок выгану. Чорныя сілуэты дамоў нагад-

ваюць цяпер дзівосны поезд без агнёў, з няроўнамернымі вагонамі, што стаяць у пустыры. Глухое дзынканне шыб ад гарматнага грукату наводзіць жуду. Здаецца, што дарослыя пасажыры ўцяклі з поезда і пакінулі ў вагонах бездапаможных дзяцей. Дрыжучымі ад спалоху пальцамі яны стукаюць у вокны вагонаў і просяць дапамогі.

А вось і школа з выбітымі вокнамі і расчыненымі дзвярмі.

— Назад, назад...—просіць Іра,—вернемся дамоў: мне страшна...

Сягоння яе голас зусім дзіцячы. Моўчкі варочаюцца яны дамоў. Іра асцярожна адчыняе дзверы. Левін чуе ўсхліпванні і злосныя словы яе маткі:

— Ты ўжо сорам увесь страціла. Усё мястэчка гаворыць. Дык навошта табе гімназія патрэбна была? Вось прападзі ты цяпер дома! Цётка сёлета адмовілася ад цябе. Мяне абакралі. Чым я табе дапамагу? Чым?

— Прападзі яна, гэта цётка, з гімназіяй разам.

— А ўсё-ж такі табе цяпер лепш было-б у Менску

— Мне ўсёроўна.

Левін ідзе дамоў. Пра Іру забывае. З галавы не выходзіць сляпы Антось, якому чытаў Некрасава. Уваходзіць з двара праз другія дзверы, запірае іх засаўкай і вобмацкам ідзе праз кухню да сваёй канапы ля акна.

— Можа есці хочаш?—шэптам пытаецца маці.

— Не хочацца.

Ніхто з хатніх не спіць.

